Дэпартамент па архівах і справаводству
Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь

Установа «Беларускі дзяржаўны архіў-музей
літаратуры і мастатцва»

# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

*Даведнік*

Выпуск 2
Паступленні 1993–2009

*Рэкамендавана Вучоным саветам
Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва
(пратакол ад 30.07.2010 № 1)*

Мінск
«Медысонт»
2012

УДК ???????
ББК ???????
Б43

Рэдакцыйная калегія: канд. гіст. навук У. І. Адамушка, канд. гіст. навук С. У. Жумар, канд. філалаг. навук В. В. Жыбуль, В. І. Бярэйшык, В. Я. Данекіна, Г. В. Запартыка, Т. В. Кекелева, У. Г. Кулажанка, Т. В. Лабазнава, М. І. Пышынская.

Укладальнікі: В. Я. Данекіна, Г. В. Запартыка, У. Г. Кулажанка
Рэдактар: канд. філалаг. навук В. В. Жыбуль

Б43 **Беларускі** дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Даведнік. Выпуск 2. Паступленні 1993–2009 : Даведнік / Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Установа «Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва» ; уклад. В. Я. Данекіна, Г. В. Запартыка, У. Г. Кулажанка ; рэдкал. У. І. Адамушка, С. У. Жумар, В. В. Жыбуль [і інш.]. — Мінск : Медысонт, 2012. — 336 с.
ISBN 978-985-6982-65-4.

Другі выпуск Даведніка па фондах БДАМЛМ уключае 146 анатацый на фонды дзеячаў беларускай літаратуры і мастацтва, дзяржаўных і грамадскіх устаноў, якія паступілі ў 1993–2009 гг. Даведнік мае спіс фондаў БДАМЛМ за 1960–2012 гг., паказальнікі імёнаў, ўстаноў, дзяржаўных грамадскіх арганізацый і культурна-грамадскіх мерапрыемстваў.

УДК ????????????
ББК ?????????????

**ISBN 978-985-6982-65-4**



# Прадмова

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва з'яўляецца адным з буйнейшых сховішчаў дакументальных крыніц па гісторыі літаратуры і мастацтва Беларусі ад пачатку XIX ст. і да нашых дзён. У 2012 г. архіў-музей налічваў 491 фонд, створаны на аснове асабістых архіваў пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, рэжысёраў, акцёраў, а таксама дакументаў творчых саюзаў, тэатраў, выдавецтваў, рэдакцый часопісаў і газет, кінастудыі «Беларусьфільм», Белдзяржфілармоніі, Беларускай акадэміі музыкі і інш. Два апошнія дзесяцігоддзі дзейнасці БДАМЛМ адзначаны высокай актыўнасцю камплектавання фондаў асабістага паходжання, у тым ліку фондаў дзеячаў літаратуры, мастацтва, культуры, якія жывуць за межамі краіны. За гэты перыяд рэарганізавалася структура архіва-музея, пашырылася тэматыка яго дзейнасці, а ў практыку яго працы ўвайшлі новыя сучасныя тэхналогіі. У 1995 г. у БДАМЛМ быў створаны аддзел навуковага апісання дакументаў асабістага паходжання, што дало магчымасць дзейнасць аддзела інфармацыйна-пошукавых сістэм, які дагэтуль займаўся амаль выключна навукова-тэхнічнай апрацоўкай асабістых архіваў, цалкам скіраваць на паскоранае стварэнне імяннога і сістэматычнага каталогаў, распрацоўку і ўкараненне аўтаматызаваных архіўных тэхналогій, забеспячэнне «ААТ — імянны каталог» чытальнай залы архіва. Пачынаючы з 2001 г. БДАМЛМ ладзіць штогадовую канферэнцыю «Узвышаўскія чытанні», якая заклікана да вывучэння і прыцягнення на пастаяннае захоўванне дакументаў па гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва 1920–1930-х гг. У 2003 г. архіў-музей заклаў традыцыю правядзення да Дня архівіста, які ў Беларусі адзначаецца 6 кастрычніка, канферэнцыі «Архіўныя чытанні», на якой разглядаюцца метадычныя і практычныя праблемы архіўнай справы. Толькі за апошнія дзесяць гадоў супрацоўнікамі архіва-музея падрыхтавана і выдадзена шэсць зборнікаў дакументаў і матэрыялаў канферэнцый, апублікавана ў зборніках, часопісах і газетах каля трохсот артыкулаў, падрыхтавана і адчынена звыш васьмідзесяці дакументальных выставак, арганізаваны многія творчыя вечарыны і прэзентацыі. Важную ролю ў пашырэнні ведаў грамадства аб архіве і яго фондах адыгрывае ўдзел супрацоўнікаў БДАМЛМ у міжнародных і рэспубліканскіх навуковых і практычных канферэнцыях, на якіх за 1995–2012 гг. было прачытана звыш дзевяноста дакладаў, большая частка якіх апублікавана ў зборніках.

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва вядомы ў краіне і як навукова-метадычны цэнтр па працы з дакументамі асабістага паход-

жання і працы з дакументамі па гісторыі літаратуры і мастацва. Метадычныя распрацоўкі ў гэтай галіне, падрыхтаваныя яго супрацоўнікамі, карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Сёння з поўнай адказнасцю можна сцвярджаць, што БДАМЛМ з'яўляецца адным з самых унікальных архіваў у сістэме дзяржаўных архіваў Рэспублікі Беларусь.

Другі выпуск Даведніка па фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва раскрывае змест і склад фондаў архіва-музея, якія паступілі і прайшлі навукова-тэхнічную апрацоўку ў 1993–2009 гг. Пятнаццацігадовы вынік працы архіва-музея па ўзбагачэнні Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусі дакументамі па гісторыі літаратуры і мастацтва складаюць асабістыя фонды дзеячаў літаратуры М. І. Аляксеева, А. Х. Асіпенкі, А. А. Бабарэкі, А. М. Бачылы, Я. Брыля, А. П. Бялевіча, Р. С. Бярозкіна і Ю. М. Канэ, І. І. Васілеўскага, В. Віткі, М. І. Гарэцкага і яго сям'і, С. І. Грахоўскага, У. М. Дубоўкі, К. Каганца, А. Н. Карпюка, М. М. Клімковіча, А. А. Куляшова, А. Е. Кучара, Е. Я. Лось, М. Лужаніна, П. М. Макаля, Б. М. Мікуліча, І. Р. Новікава, Р. Папараця, І. М. Пташнікава, М. Л. Стральцова, М. Танка, П. Труса, Н. І. Тулупавай, М. Чарота, І. П. Шамякіна, С. П. Шушкевіча, С. Яновіча і інш.; вядомых рэжысёраў і акцёраў Ю. І. Авер'янава, А. П. Астрынай, Т. А. Бандарчык, С. С. Бірылы, К. Ф. Быліча, Данчыка (Б. Андрусішына), С. С. Казіміроўскага, А. І. Клімавай, Л. П. Крука, Л. М. Літвінава, Г. К. Макаравай, Б. В. Платонава і І. Ф. і Ф. П. Ждановічаў, Л. Р. Рахленкі і Л. І. Ржэцкай, В. І. Скорабагатава, В. Ц. Турава, В. П. Чацверыкова, І. П. Яўнзем і інш.; музычных дзеячаў і кампазітараў М. А. Бергера, Ю. М. Дрэйзіна, Дз. М. Жураўлёва, І. І. Кузняцова, К. С. Пуроўскага, Ю. У. Семянякі, Я. Тарасевіча, Я. К. Цікоцкага, Г. І. Цітовіча; мастакоў і мастацтвазнаўцаў А. А. Астаповіча, П. М. Герасімовіча, А. В. Грубэ, М. В. Дучыца, Я. Я. Красоўскага, С. Д. Палееса, А. А. Паслядовіч і В. І. Сахненкі; вучоных: доктара мастацтвазнаўства Г. І. Барышава, гісторыка М. І. Ермаловіча, доктара філалагічных навук А. К. Каўкі, доктара мастацтвазнаўства М. С. Кацара. Значнае месца ў Даведніку займаюць анатацыі на калекцыі і зборы, якія паступілі ад калекцыянераў ці сфарміраваліся ў архіве-музеі з малаколькасных паступленняў прыватных архіваў. Да першых адносяцца калекцыі Я. Ю. Раманоўскай, Дж.-Б. Шоу, Я. К. Шнаркевіча, калекцыя фатаграфій Беларускага тэатральнага аб'яднання. Малаколькасныя паступленні прыватных архіваў утварылі самастойныя зборы архіваў дзеячаў літаратуры, архіваў дзеячаў тэатра і кіно, архіваў дзеячаў мастацтва і інш. Персанальныя зборы В. А. Селяха і Я. С. Мініна былі створаны спецыяльна для архіва-музея іх сваякамі. За анатуемы перыяд новымі паступленнямі папоўніліся збор сям'і Багдановічаў і калекцыя дакументаў Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні. У Даведніку дадзеныя паступленні адлюстраваны адпаведнымі анатацыямі. Упершыню ў Даведніку фонд этнографа, пісьменніка, перакладчыка, даследчыка беларускага фальклору А. К. Ельскага, які паступіў у БДАМЛМ яшчэ ў 1962 г. і да 2000 г. быў улічаны як архіўны фонд асабістага паходжання А. К. Ельскага, названы часткай унікальнай калекцыі, сабранай А. К. Ельскім у другой палове XIX ст. У 2007 г., пасля праведзенай даследчыцкай працы і апублікавання яе вынікаў у «Археаграфічным штогодніку» (БелНДІДАС. Мн., 2000), фонд прайшоў пераапрацоўку і атрымаў назву «Калекцыя аўтографаў, сабраная А. К. Ельскім». БДАМЛМ у апошняе дзесяцігоддзе актыўна працуе над камплектаваннем дакументамі па гісторыі літаратуры і мастацтва, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь. Важна адзначыць, што значную частку анатуемых фондаў складаюць паступленні з розных краін свету. Да іх адносяцца фонды грамадскага і культурнага дзеяча беларускай эміграцыі А. А. Алехніка (Аўстралія), вядомага крытыка і пісьменніка А. А. Бабарэкі (Масква), класіка беларускай літаратуры М. Гарэцкага і яго сям'і (Санкт-Пецярбург), скульптара А. В. Грубэ (Масква), спевака Данчыка (ЗША), паэта У. М. Дубоўкі (Масква), перакладчыка П. С. Кабзарэўскага (Санкт-Пецярбург), пісьменніка і грамадскага дзеяча К. Каганца (Масква), вучонага і грамадскага дзеяча А. К. Каўкі (Масква), рэжысёра Л. М. Літвінава (Казань), кампазітара Я. Тарасевіча (Беласток, Польшча), а таксама дакументы, якія складаюць калекцыі і самастойныя раздзелы ў адпаведных зборах: мастака М. С. Калініна (Латвія), пісьменніка У. Глыбіннага (ЗША), рэжысёра М. Ф. Рафальскага (Масква), паэта-сатырыка А. Дзяркача (Санкт-Пецярбург), літаратуразнаўцы Л. І. Леўшчанкі (Кіеў), паэта і перакладчыка Б. А. Кежуна (Санкт-Пецярбург), збор мастака Я. С. Мініна (Масква), калекцыя педагога і культурнага дзеяча Я. К. Шнаркевіча (Літва).



У Даведнік упершыню ўключаны анатацыі на фонды творчых устаноў, якія былі створаны ў Беларусі у 1980-я–1990-я і першыя паступленні якіх адбыліся ў апошняе дзесяцігоддзе. Да іх адносяцца Вытворча-творчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Беларускі відэацэнтр» (з 1989), РУ «Дзяржаўны рэгістр кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм» (1993–2005), Дзяржаўнае аб'яднанне «Белканцэрт» (1988–2005), Музычны фонд Рэспублікі Беларусь (з 1986), Дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны» (1990–2004), выдавецтва «Юнацтва» (1982–2002), Беларускі дзяржаўны ансамбль «Песняры» (з 1989), Заслужаны калектыў «Дзяржаўны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь» (з 1989), Дзяржаўны маладзёжны тэатр Рэспублікі Беларусь (з 1984). У гэтым шэрагу асобнае месца займаюць анатацыі на фонды Камітэта па аўтарскіх і сумежных правах пры Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь (існаваў з 1994 да 2001 г., яго папярэднікамі былі Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага агенцтва па ахове аўтарскіх правоў, Беларускае агенцтва, а пасля Упраўленне па аўтарскіх і сумежных правах пры СМ Рэспублікі Беларусь) і Камітэта па дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (фонд у БДАМЛМ упершыню паступіў у 1995 г. і ўтрымлівае інфармацыю аб дакументах па вылучэнні на Дзяржаўную прэмію каля ста дзеячаў літаратуры і мастацтва). У другім выпуску Даведніка працягнута анатаванне фондаў устаноў, якія папоўніліся новымі паступленнямі: Беларускага саюза кампазітараў, Беларускага саюза мастакоў, Саюза беларускіх

пісьменнікаў, Беларускага саюза журналістаў, рэдакцый часопісаў і газет, якія ў апошняе дзесяцігоддзе перасталі існаваць, альбо страцілі самастойнасць і ўвайшлі ў розныя рэдакцыйна-выдавецкія холдынгі («Бярозка», «Вожык», «Маладосць», «Крыніца», «Нёман», «Полымя», «Літаратура і мастацтва»), дзяржаўных відовішчных устаноў і тэатраў (харэаграфічны ансамбль «Харошкі», Дзяржаўны ансамбль танца, Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Г. І. Цітовіча, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Коласа (з 2001 г. Нацыянальны), Дзяржаўны тэатр лялек Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (з 1999 г. Нацыянальны), Дзяржаўны рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь), а таксама кінастудыі «Беларусьфільм», Беларускай дзяржаўнай філармоніі і адзінага ў БДАМЛМ фонда ўстановы адукацыі — Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Усяго ў другі выпуск Даведніка па фондах БДАМЛМ уключана 144 анатацыі.

Пры распрацоўцы схемы Даведніка ўлічвалася профільная спецыфіка і склад фондаў архіва-музея: на першае месца вылучаны фонды дзеячаў літаратуры і мастацтва, за імі самастойным раздзелам — зборы і калекцыі, пасля — фонды дзяржаўных і недзяржаўных творчых устаноў і грамадскіх арганізацый. Апісальныя артыкулы Даведніка складаюць агульныя звесткі пра фонд, біяграфічныя звесткі пра фондаўтваральнікаў і анатацыю дакументаў. Для найбольш каштоўных дакументаў, а таксама пісем, фатаграфій, альбомаў, блакнотаў і інш. указваецца іх колькасць. Размяшчэнне інфармацыі ў анатацыях адпавядае арганізацыі дакументаў у фондзе (схеме сістэматызацыі).

Даведнік па фондах БДАМЛМ забяспечаны імянным і прадметным паказальнікам, спісам фондаў БДАМЛМ на 01.01.2012, зместам.

Для падрыхтоўкі дадзенага выдання ў 2008 г. у БДАМЛМ быў створаны творчы калектыў, які выканаў абавязкі па ўкладанні і рэдагаванні даведніка. Усе анатацыі на фонды асабістага паходжання, а таксама зборы і калекцыі, былі напісаны адразу за іх навукова-тэхнічнай апрацоўкай супрацоўнікамі аддзела навуковага апісання дакументаў асабістага паходжання, якія непасрэдна ажыццяўлялі НТА архіваў (Алесавец С. У., Буель С. Г., Васільева К. С., Грошава М. В., Данекіна В. Я., Евенка І. А., Чэрнік-Рымашэўская Н. М. і інш.). Анатацыі на фонды ўстаноў былі зроблены ў працэсе працы па падрыхтоўцы Даведніка да выдання.

*Дырэктар Беларускага дзяржаўнага*
*архіва-музея літаратуры і мастацтва*
*Г. В. Запартыка*

# ФОНДЫ ДЗЕЯЧАЎ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

## АВЕР’ЯНАЎ Ю. І.

**Ф. 427. Воп. 1, 31 адз. зах., 98 дак., [1954]–1996 гг.**

***Авер’янаў Юрый Іванавіч*** *(1952–1996) — акцёр тэатра імя Я. Купалы*

Дакументы творчай дзейнасці Ю. І. Авер’янава. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў Яраслаўскага тэатральнага вучылішча 5 [1972]; тэатра імя Я. Купалы: «Прызначэнне» А. Валодзіна, «Ідылія» В. І. Дуніна-Марцінкевіча, «Снежная каралева» Я. Шварца, індывідуальнае і ў групах з З. В. Белахвосцік, М. А. Громавай, Г. Р. Маляўскім, А. Ю. Сідаравай, 5 ([1978]–1995).

Пісьмы да Ю. І. Авер’янава: З. І. Браварскай 5 (1973), Ц. А. Кандрашова 2 (1974), Г. К. Макаравай (1973), У. А. Талаконнікава 3 (1973–1974) і інш. Усяго 7 кар.

Дакументы да біяграфіі Ю. І. Авер’янава (1960–1980).

Нататкі, інфармацыі пра Ю. І. Авер’янава — друк. выр. ([1970-я]–1996).

Фота Ю. І. Авер’янава, індывідуальныя і ў групах з Г. С. Аўсяннікавым, З. В. Белахвосцік, І. І. Вашкевічам, Л. М. Давідовіч, А. П. Дзянісавым, Г. К. Макаравай, С. М. Станютай, З. Ф. Стомам і інш., 29 ([1954]–1991).

## АЛЕР Ф. Я., КУЗНЯЦОВА К. Б.

**Ф. 379. Воп. 1, 32 адз. зах., 85 дак., 1924–1990 гг.**

***Алер Фаіна Яўхімаўна*** *(1904–1985) — дзеяч культуры; яе дачка* ***Кузняцова Клара Барысаўна*** *(нар. 1934) — тэатразнавец*

Асабістыя дакументы Ф. Я. Алер: аўтабіяграфія (1938), працоўная кніжка (1938–1980), пасведчанні (1940–1971), ганаровыя граматы (1942–1978), віншавальныя паштоўкі, адрасы, тэлеграмы ў сувязі з юбілеямі (1960–1984).

Фота Ф. Я. Алер, індывідуальнае, у групе з калектывам БДТ-1 і камандна-выкладчыцкім саставам 1-га Томскага артылерый-

скага вучылішча (1944), Э. Агняцвет, П. У. Броўкам, Я. Коласам, Л. М. Літвінавым, М. Лужаніным, Б. В. Платонавым, К. С. Саннікавым, У. І. Уладамірскім, Р. Р. Шырмам і інш., 12 ([1944]–1984).

Дакументы К. Б. Кузняцовай: пісьмы З. І. Канапелькі, С. С. Шаўчука да К. Б. Кузняцовай 2 (1980–1983), картатэка твораў К. Б. Кузняцовай і рэцэнзій на іх (1959–1990), праграмы спектакляў гастрольных сезонаў тэатра імя Я. Купалы ([1923]–1945). Ролі, сыграныя Г. Ю. Грыгонісам у тэатры імя Я. Купалы (1936–1954), фота Г. Ю. Грыгоніса ў ролях са спектакляў 8 (1924–1934), афіша спектакля «Як выкралі Сафі» (мастак А. У. Кузняцоў) (1985), картатэка рэцэнзій на спектаклі з упамінаннем А. У. Кузняцова (сына) (1984–1989).

## АЛЕХНІК А. А.

**Ф. 452. Воп. 1, 453 адз. зах., 6980 дак., 1930–1999 гг., асобн. дак. 1918 г.**

***Алехнік Алесь Апанасавіч*** *(1929–2006) — грамадскі і культурны дзеяч беларускай эміграцыі. З 1950 г. жыў у Аўстраліі*

Рукапісы А. А. Алехніка. «Кароткі нарыс арганізацыі «Беларускае Аб'яднанне Аўстраліі», «Кароткі нарыс беларускай пасляваеннай эміграцыі ў вольным свеце» (1990), артыкулы, інфармацыі пра змаганне беларусаў за незалежнасць, пра жыццё беларусаў у Аўстраліі (1958–1998); прамовы, даклады, выступленні на розных канферэнцыях, мерапрыемствах, мітынгах (1954–1991); адкрытыя пісьмы да ўраду і парламенту Рэспублікі Беларусь і інш. (1990–1997). Усяго 112 рук.

Пісьмы А. А. Алехніка: у рэгіянальныя аддзяленні ABN 33 (1958–1982), прэзідэнтам і старшыням рэгіянальных аддзяленняў APACL/WACL 397 (1958–1989); пісьмы ў грамадска-палітычныя, адміністрацыйныя, культурна-адукацыйныя, рэлігійныя, эміграцыйныя і інш. установы Аўстраліі 473 (1958–1991); пісьмы ў грамадскія арганізацыі краін свету, да дзеячаў міжнароднага руху 189 (1958–1997); пісьмы да прэм'ер-міністраў — Вялікабрытаніі М. Тэтчар (1989), Дж. Мэйджара (1991), прэзідэнтаў — ЗША Дж. Буша 3 (1989–1991), Д. Форда (1976), Дж. Картэра (1978), Р. Ніксана 5 (1968–1973), Р. Рэйгана (1988), Д. Эйзенхаўэра 4 (1959–1960), Рэспублікі Кітай (Тайвань) Чан Кайшы 2 (1972), Рэспублікі Літва В. Ландсбергіса 2 (1990), Рэспублікі Латвія А. Гарбуноўса 2 (1991), Рэспублікі Славенія М. Кучана 2 (1991), Рэспублікі Харватыя Ф. Туджмана 2 (1991), Рэспублікі Эстонія А. Рутэля 2 (1991), канцлера ФРГ Г. Коля 2 (1990); пісьмы да дзеячаў беларускай



эміграцыі — В. Арэхвы 5 (1970–1971), В. Астроўскага 4 (1967–1972), Р. К. Астроўскага 31 (1958–1976), Я. Будзіча-Бунчука 8 (1960–1971), айца П. Вялікага 2 (1979, 1988), К. Глінскага 15 (1976–1980), П. Гуза 3 (1972–1974), М. М. Зуя 2 (1970, 1992), Д. Касмовіча 83 (1958–1980), І. Касяка 38 (1958–1988), айца М. Крушынскага 2 (1972), айца М. Лапіцкага 12 (1963–1971), М. Латушкіна (1958), А. Малаха 12 (1958–1965), К. Мерляка 9 (1970–1980), айца А. Мірановіча 4 (1971–1977), Н. Мядзейкі 29 (19701982), айца А. Надсана (1966), айца Я. Пятроўскага 3 (1970–1979), С. Розмысла 7 (1960–1962), М. Сенькі 2 (1961, 1967), М. Скабея 4 (1972–1973), архімандрыта Я. Строка 5 (1971–1977), В. Цярпіцкага 4 (1988–1990); пісьмы ў рэд. газ. і час. — «Свабода» 7 (1990–1991), «Беларуская крыніца» (1992), «Народная газета» (1990), «Наша Ніва» (1991); да дзяржаўных, грамадскіх дзеячаў, дзеячаў культуры і навукі і грамадзян Рэспублікі Беларусь А. Баркоўскага 3 (1991–1992), С. А. Габрусёва 3 (1991–1992), М. І. Дземянцея (1990–1991), В. Ф. Кебіча 2 (1990–1991), П. К. Краўчанкі 2 (1992), А. Майсені (1991), А. В. Мальдзіса 2 (1991–1992), З. С. Пазняка 2 (1990, 1991), В. А. Трыгубовіч 9 (1990, 1991), І. Г. Чыгрынава (1990). Усяго 393 адр.

Пісьмы А. А. Алехніку, члену ВАА: ад грамадска-адміністрацыйных, палітычных, культурна-адукацыйных, рэлігійных і дабрачынных устаноў 284 (1952–1999); эмігранцкіх асацыяцый, 93 (1953–1994); асацыяцый ААН у Аўстраліі, 111 (1956–1995); ад пасольстваў Рэспублікі В'етнам, ЗША, Рэспублікі Карэя, Тайланда, Філіпін, ФРГ, 113 (1959–1995), кіраўнікоў рэгіянальных аддзяленняў ABN, 98 (1957–1987), APACL/WACL, 22 (1957–1966); пісьмы ад дзеячаў беларускай эміграцыі В. Арэхвы, 2 (1970), В. Астроўскага, 8 (1967–1970), Р. К. Астроўскага, 19 (1957–1976), К. Глінскага, 35 (1976–1980), М. М. Зуя, 7 (1959–1991), Д. Касмовіча, 174 (1957–1983), І. Касяка 16 (1958–1978), Н. Мядзейкі, 63 (1970–1982), Я. Пятроўскага (1970), С. Розмысла, 7 (1958–1969), А. Русака (1951). Усяго 219 кар.

Пісьмы А. А. Алехніку, члену BLF: ад кіраўнікоў рэгіянальных аддзяленняў APACL/WACL, прэзідэнта WCACA (Тайвань), Цэнтральнага камітэта ABN (Германія), 1288 (1966–1983); ад кіраўнікоў грамадска-палітычных арганізацый краін свету, 323 (1966–1996); візіткі грамадска-палітычных дзеячаў 17 [1970-я–1980-я]. Усяго 63 кар.

Пісьмы А. А. Алехніку: ад афіцыйных асоб, кіраўнікоў фондаў, рэдакцый часопісаў і газет, грамадзян Польшчы, Расіі, Рэспублікі Беларусь А. Баркоўскага, 26 (1991–1995), М. Валюшкі (1981), С. А. Габрусёва, 8 (1991–1992), Г. Глагоўскай (1992), П. К. Краўчанкі, 2 (1992), Я. Р. Лецкі, 3 (1993), З. Ліцвін, 18 (1990–1991), А. В. Мальдзіса, 9 (1991–1996),

М. А. Марыніча (1993), П. Скарабагацькі (1994), В. А. Трыгубовіч 18 (1990–1993), В. М. Целеша (1994), С. С. Шушкевіча 2 (1993, 1996). Усяго 79 кар.

Дакументы да біяграфіі А. А. Алехніка (1944–1993): пашпарт, медычныя дакументы (1944–1950), пасведчанні польскага грамадзяніна, Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва сусветнай эміграцыі, сябра Хрысціянскага аб'яднання маладых мужчын і жанчын (1945–1951), альбом з дакументамі да біяграфіі (1946–1976), дак. аб працы ў Германіі (1947–1949), Аўстраліі (1951–1958); запрашэнні на розныя мерапрыемствы, якія праводзіліся грамадска-палітычнымі, эмігранцкімі і культурнымі арганізацыямі Аўстраліі (1954–1995); дак. аб дзейнасці А. А. Алехніка ў BAA (1950–1993); дак. аб дзейнасці А. А. Алехніка ў BLF (1966–1993); дак. дзейнасці БЦР і БНФ (1953–1960).

Артыкулы пра А. А. Алехніка, рэцэнзія А. В. Мальдзіса — бюлетэні, выр. з газ. (1966–1999).

Статут праваслаўнай беларускай аўтакефальнай царквы (1942), звароты дзеячаў беларускай эміграцыі да суайчыннікаў (1948–1950), карты Беларусі (1950, 1958), г. Мінска, Мінскага раёна, г. Магілёва (1986, 1990), артыкулы, нататкі з беларускай прэсы пра сацыяльна-палітычныя праблемы Беларусі (1992–1999), Дэкларацыя Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце (1991), Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (1994), паштоўкі «Гербы беларускіх ваяводстваў», сімволіка БНР (1918, [1950-я]), выступленні міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. К. Краўчанкі на адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар Ф. Скарыны ў Падуанскім універсітэце, на 46 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН — брашуры на англ., беларус., італ. м. (1991, 1992), лістоўкі венгерскіх, харвацкіх, украінскіх арганізацый і партый — брашуры, друк. выд. на англ. м. (Аўстралія) (1954–1970), «Сястра Ф. Кастра абвінавачвае яго ў здрадзе рэвалюцыі»: матэрыялы канферэнцыі» — брашура на англ. м. [1965], дак. урадавых устаноў Аўстраліі — брашуры на англ. м. (1967–1977), «Дакументы масавага мітынгу ў дзень сусветнай свабоды» — зб. на англ. м. (1977).

Фота А. А. Алехніка, індывідуальныя, з роднымі, сябрамі, знаёмымі, калегамі, з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі, з удзельнікамі канферэнцый APACL/WACL, прэм'ер-міністрам Літвы (К. Прунскене), літоўскімі дыпламатамі (1941–1992)

Фота: праваслаўнай царквы ў в. Лахва [1920-я–1930-я], дамоў А. А. Алехніка ў Аўстраліі (1951, 1998).

Дакументы родных А. А. Алехніка (1941–1988).



## АЛЯКСЕЕЎ М. І.

**Ф. 207. Воп. 2, 246 адз. зах., 993 дак., 1940–1984 гг.***
***Аляксееў Мікалай Іванавіч** (1898–1985) — празаік, драматург*

«Рукапісы М. І. Аляксеева. Раманы: «По зову сердца» ([1950]–1974), «Испытание [1957]; аповесці: «Вот так-то, Николай» (1962), «Сухарь» (1966–1968), «Дружба — могучая сила» (1970), «Кто же властвует на Мядельщине?» (1973), «Река Буг — граница Родины» (1973), «Генерал армии» (1976), «Тихий угол» (1977); дак. кніга «Навстречу Победе» (1964–1967); п'есы: «Сестра Варвара» (1959), «Свет в тайге» (1961); апавяданні ([1973] –1975); нарысы: «Черняховский» (1964), «До Минска и дальше» [І960–я], «Освобождение Мяделя» (1973) і інш.; артыкулы: «Накануне контрнаступления под Москвой», «Первые оборонительные бои за Минск», «Разгром восточно-прусского бастиона» [пач. 1980-х] і інш.; нататкі (1957–1970); выступленні (1957–1981); успаміны пра П. У. Броўку, У. Б. Карпава, М. Ц. Лынькова, Т. К. Хадкевіча, пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны (1968–1982). Усяго 87 рук.

Пераклады твораў М. І. Аляксеева на беларус. м. (1959–1969).

Пісьмы М. І. Аляксеева: М. Г. Ткачову (І971), І. П. Шамякіну [1976], [А. Ц.] Чайкоўскаму (1968), у ваенныя ведамствы і інш. (1959–1984); знаёмым, школьнікам, чытачам (1959–1982). Усяго 52 адр.

Пісьмы М. І. Аляксееву: І. І. Бірычава (1970), П. У. Броўкі (1958), А. К. Кананенкі 2 (І959– [І960-я], маршала М. І. Крылова 3 (1965). Усяго 4 кар.

Пісьмы М. І. Аляксееву ад устаноў: выдавецтваў «Воениздат» 6 (1960–1964), Курскага кніжнага выд-ва (1957), «Политиздата» 4 (1964–1978), выд. «Промінь» 2 (1973–1975), Прыморскага кніжнага выд. (1958), рэд. час.: «Неман» 2 (1979), «Смена» 2 (1960, 1961), «Советский воин» 2 (1958, 1965), «Советское Приморье» (1959), «Пограничник» 2 (1965), рэд. газ. «Алтайская правда» (1965), «Боевое знамя» 3 (1959–1960), «Во славу Родины» (1971), «Советский пограничник» (1974); музеяў і архіва 7 (1959–1973); ваенных ведамстваў 11 (1960–1977); знаёмых і сяброў 21 (1957–1981); ветэранаў, чытачоў 67 (1957–1983); школьнікаў 21 (1958–1971).

Спісы пісьменнікаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны [1964], удзельнікаў грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайны (1969);

* Анатацыю на воп. 1 (1943–1946) гл. «Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Даведнік. Паступленні 1960–1992» (Мн., 1997). Вып. 1. С. 35–36. (Далей Выпуск 1.)

дак-ты аб узнагароджанні і святкаванні юбілеяў (1958–1983). Дакументы да біяграфіі М. І. Аляксеева (1938–1984).

Верш Е. Я. Лось, прысвечаны М. І. Аляксееву — аўтарыз. маш. [1970-я], сцэнарый дакум. радыёнарыса В. Жука пра М. І. Аляксеева (1982), рэцэнзіі і водгукі А. А. Зарыцкага, І. Ф. Кудраўцава, А. Папова, Ф. Собаля і інш. на раман М. І. Аляксеева «Испытание» (1957–1971) і аповесць «Сухарь» (1971), успаміны, нататкі Л. Аўчыннікава, П. Бараненкава, П. Цібенкі пра М. І. Аляксеева (1957–[1970]).

Рукапісы: П. У. Броўкі, Г. М. Бураўкіна, А. А. Вазнясенскага — маш., друк. выр. [1960-я–1970-я], нарысы, артыкулы, успаміны, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне — друк. выр. (1960–1977), дакум. нарыс В. Нікалаева, І. Мастакова «Подвиг генерала» — друк. выр. (1966), рэцэнзіі на творы П. Е. Панчанкі, Э.-М. Рэмарка, А. Сціля, М. Твена, І. П. Шамякіна, М. А. Шолахава і інш. — друк. выр. (1960–1967), артыкулы на ваенныя, грамадска-палітычныя тэмы — друк. выр. (1964–1979), даклад І. І. Бірычава і П. К. Гіценкі пра ўдзел Пятай арміі ў абароне Масквы — маш. [1960-я], сшытак з запісамі афарызмаў — рук. М. І. Аляксеева (1958). Карты-схемы генеральнага штаба РСЧА (I924, I939), карты-схемы баявых дзеянняў у гады Вялікай Айчыннай вайны — аловак 63 [1960-я], зб. карт-схем «Разгром немецко-фашистских войск под Москвой» — друк. выд. (1964), каталог выстаўкі «От Москвы до Кенигсберга» франтавога карэспандэнта В. Аркашова (1968).

Фота М. І. Аляксеева, індывідуальныя, у групах з А. С. Грачанікавым, М. І. Калачынскім, У. Б. Карпавым, М. П. Кругавых, А. Е. Кучарам, М. Т. Паслядовічам, П. Ф. Прыходзькам, М. А. Савіцкім, Ю. С. Сямёнавым, М. І. Татурам, Т. К. Хадкевічам, І. П. Шамякіным, І. Г. Чыгрынавым і інш.; з Вішнеўскім, І. Д. Чарняхоўскім на Заходнім фронце, — коп., у групах з вайскоўцамі, курсантамі сувораўскіх вучылішчаў, ветэранамі Вялікай Айчынай вайны, 28 (1942–1982); Рэпрадукцыі ілюстрацый Л. А. Дубава да рамана М. І. Аляксеева «По зову сердца» — гранкі 4 [1974].

Фота Героя Савецкага Саюза С. П. Супруна [1940].

## АСІПЕНКА А.

**Ф. 432. Воп. 1, 294 адз. зах., 1213 дакументаў, 1922–1994 гг.**

***Асіпенка Алесь*** *(Аляксандр Харытонавіч) (псеўд. А. Пушкарскі) (1919–1994) — пісьменнік, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь*



Рукапісы А. Асіпенкі. Раманы: «Вогненны азімут» ([пач. 1960-х]–1989), «Непрыкаяны маладзік» [1970-я], «Святыя грэшнікі» (1985), «Лабірынты страху» (1986–[1992]), «Дараванне грахоў» = «Спавітыя душы» (1992); аповесці: «Паплавы» = «Дарагое сэрцу Падзвінне» [1960-я–1970-я], «Сыну майго сына» [1962], «Абжыты кут» = «Зіма ўцякае цёмнымі начамі» [1964], «Жыта» [1966], «Канец бабінага лета» [1975], «Няроўнай дарогай» [1979], «Пяцёрка адважных» [1985], «Знікненне ў барвовай імгле» [1992]; п'есы: «Канец зудня» [1960-я–1970-я], «Калі цвіце чаромха» [1960-я–1970-я], «Над кручай» [1960–я-1970-я], «Чужы кошт» [1960-я–1970-я]; «Баллада об Иване-богатыре» (1979), «Конец бабьего лета» (1981), «Жыта» (1984), літ. і рэж. сцэнарыі мастацкіх фільмаў: «Пятерка отважных» [1985], «Огонь на себя» (разам з У. Ампілавым, А. Шабаліным) [1980-я], «Тревоги первых птиц» (разам з А. Аўдзеевым, Д. Ніжнікоўскай, В. Шнаркевічам) (1984), «Ясь і Яніна» (разам з С. Паляковым) (1973); заяўкі на сцэнарыі мастацкіх фільмаў ([пач. 1960-х]–1982); апавяданні [1950-я–1993]; артыкулы: пра Я. Брыля, П. С. Пестрака, М. Л. Стральцова, В. П. Чацверыкова, М. А. Шолахава, кінастудыю «Беларусьфільм», аб працы ў газ. «Чырвоная змена», час. «Маладосць» (1962–[1990-я]); успаміны: пра сваё жыццё [1960-я–1970-я], У. Б. Карпава (1978), М. Ц. Лынькова [1979], І. П. Мележа (1989), У. С. Караткевіча (1988), Е. Я. Лось (1987), адказы на анкеты газ. «Літаратура і мастацтва», час. «Нёман» (1978–пач. 1990-х], «Каларыт эпохі» — сто анекдатычных паданняў пра выдатных беларускіх пісьменнікаў [1980-я]; дзённікі, дзённікавыя запісы і нататкі «Без хітрыкаў» (1964–1994) і інш. Усяго 270 рук.

Пераклады твораў А. Асіпенкі, зробленыя М. В. Гарбачовым, В. Я. Тарасам, В. М. Шчадрынай ([1973] –1990).

Пісьмы А. Асіпенкі: У. А. Калесніку [1972], Н. І. Мацяш [1970-я], К. Я. Пішчанку (1971), у выд. «Мастацкая літаратура» 14 (1979–[1992]), «Советский писатель» (1965–1982), рэд. час. «Дружба народов» (1987), дырэктару кінастудыі «Беларусьфільм» (1985) і інш. Усяго 15 адр.

Перапіска з выд. «Молодая гвардия» (1965, 1991)

Пісьмы да А. Асіпенкі: Я. Брыля (1987), В. У. Быкава 2 (1967), З. Я. Быленкі 16 (1965–1967), М. В. Гарбачова 16 (1961–1982), В. С. Гарбука (1969), П. С. Кабзарэўскага 100 (1964–1970), У. А. Калесніка 5 (1965–1978), А. Н. Карпюка (1964), А. І. Карчагіна 7 (1974–1976), А. А. Марціновіча (1982), П. Е Панчанкі 3 (1961–1982), Г. І. Пятроўскай 3 (1986–1988), Г. І. Пятроўскага 3 (1985–1988), І. У. Саламевіча (1978), Г. Севунца 2 (1963, 1964), М. Л. Стральцова 2 (1964, 1968), родных, знаёмых і інш. (1959–1990). Усяго 60 кар.

Пісьмы да А. Асіпенкі ад установаў: выд-ваў «Литературное наследие» (1964), «Советский писатель» (1988), час. — «Вожык» [1985], «Дружба народов» 3 (1965–1987), «Маладосць» (1975), «Огонёк» (1978), «Полымя» (1989), Савецкага камітэта па сувязях з пісьменнікамі Азіі і Афрыкі (1976), кінастудыі «Беларусьфільм» (1987) і інш.

Дакументы да біяграфіі А. Асіпенкі (1949–1987): працоўная кніжка (1944–1980), пасведчанне заслужанага работніка культуры БССР (1979), ганаровыя граматы (1968–1983), дак-ты: аб працы галоўным рэдактарам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм» (1974–1987), аб грамадскай дзейнасці ў СП БССР (1978–1986), аб працы над фільмам «Каждый третий» = «Баллада об Иване-богатыре» (1979–1980), «Конец бабьего лета» (1980–1987), «Огонь на себя» [1980], заключэнні, рэцэнзіі сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм» на літ. і рэж. сцэнарыі мастацкіх фільмаў «Мальчишки» = «Неуловимая пятерка» (1969), «Пароль меняется через месяц» (1980–1985), «Жыта» (1984–1985).

Артыкулы пра А. Асіпенку да 50- і 70-годдзяў, віншавальныя адрасы СП БССР, Саюза кінематаграфістаў БССР, кінастудыі «Беларусьфільм», час. «Беларусь», «Бярозка», «Вожык», «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя» і інш. у сувязі з 60-годдзем А. Асіпенкі (1969–1989).

Артыкулы з упамінаннем пра А. Асіпенку, інтэрв'ю з ім — выр. з газ. (1963–1991), рэцэнзіі А. Астроўскага, Л. Баць, М. В. Гарбачова, У. Грышчанкі, Я. Р. Лецкі, Я. С. Мазалькова, Р. В. Шкрабы і інш. на аповесць «Абжыты кут», «Огненный азимут», «Святыя грэшнікі» — аўт., аўтарыз. маш., выр. з газ. ([1958] –1994).

Пратакол спецкамісіі Полацкага павятовага выканкама аб эксгумацыі і аглядзе мошчаў прап. Ефрасінні Полацкай — маш. коп. (1992); сшыткі з выпіскамі і выразкамі з газет да раманаў: «Вогненны азімут» = «Гарачы попел», «Дараванне грахоў» = «Спавітыя душы» [1950–1980-я], сшыткі з запісамі да сваіх твораў [1950-я–1980-я]; Л. Мартынюк «Пятёрка отважных» = «Отважные ребята» = «Мальчишки» — рэж. сцэн. мастацкага фільма па літ. сцэн. А. Асіпенкі — маш. (1970), А. Крыга «Марзянка для нелюбімых» — аповесць, маш. з аўт. праўкамі [1988], Н. В. Кажэўнікава «Дома и люди» — апавяданне, друк. выд. (1979), А. Р. Кобец-Філімонава «Вася Веселкин и пятеро друзей» — літ. сцэн. лялечнага мультыплікацыйнага фільма, маш. (1973), артыкулы пра беларускую літаратуру і грамадскую думку, на грамадска-палітычныя тэмы — выр. з газ. (1971–1993), пісьмы У. М. Дубоўкі да А. І. Карчагіна 9 (1958–1959), Я. Брыля да М. [Калачынскага] [1966] і інш.



Фота А. Асіпенкі, індывідуальныя, у групах з Э. Агняцвет, Л. П. Александроўскай, М. Я. Аўрамчыкам, Р. І. Барадуліным, Г. М. Бураўкіным, Т. М. Бондар, П. У. Броўкам, Я. Брылём, В. Віткам, В. Вольскім, Э. М. Гарачым, Н. С. Гілевічам, С. І. Грахоўскім, А. С. Грачанікавым, М. І. Забэйдам-Суміцкім, М. І. Калачынскім, К. Крапівой, А. А. Куляшовым, Е. Я. Лось, М. Ц. Лыньковым, А. Я. Макаёнкам, П. М. Машэравым, І. П. Мележам, Д. Ніжнікоўскай, П. Е. Панчанкам, А. Л. Петрашкевічам, А. М. Савіцкім, М. Танкам, В. Ц. Туравым, І. Г. Чыгрынавым, Я. І. Янішчыц, супрацоўнікамі рэд. час. «Маладосць», з выпускнікамі гістарычнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута, з роднымі; фота В. І. Асіпенкі (жонкі), дзяцей і інш., 187 (1929–1994).

Фота рэкламных плакатаў і кадраў з фільма «Пятерка отважных» 4 (1970).

Фота да кнігі А. Ю. Дзенісевіча «Арлінае племя»; беларускіх партызан — арыгіналы і коп., 19 (1943–1944), Н. Я. Наталевіча з моладдзю, В. З. Каржа з К. П. Арлоўскім 2 ([1950-я], 1964).

Фота малюнка К. Чорнага да верша В. Віткі «Алешына» [1942].

## АСТАПОВІЧ А. А.

**Ф. 395. Воп. 1, 155 адз. зах., 704 дак., 1902–1940, асобн. дак. канца XIX ст., 1950–1958, 1994 гг.**

***Астаповіч Аркадзь Антонавіч*** *(1896–1941) — графік*

Малюнкі А. А. Астаповіча. Пейзажы (1918–1940); аўтапартрэты 5 [1910-я–1920-я], партрэты (1924–1940); натуршчыкі (1930–1940); анімалістычныя замалёўкі да кніг і часопісаў [1920-я], кампазіцыі (1928–1940), інтэр'ер пакоя (1940), ілюстрацыі да кніг і часопісаў [1930-я]; жывапісныя творы: пейзажы 9 [1939], нацюрморты 3 (1935–[1940]). Усяго 537 мал.

Агульныя сшыткі, альбомы і блакноты (23) з накідамі, замалёўкамі да пейзажаў, кампазіцый (1917–1939), блакнот з вершамі паэтаў К. Д. Бальмонта, В. Я. Брусава, М. С. Гумілёва з ілюстрацыямі-пейзажамі А. А. Астаповіча — акв., туш (1921).

Блакнот з кароткімі дзённікавымі запісамі А. А. Астаповіча за 1939–1940 гг.; яго пасведчанне на ўваход у Дом урада — з фота (1940); радавод сям'і Астаповічаў (з канца XIX ст. — па канец XX ст.) складзены Н. М. Усавай са слоў М. Г. Астаповіч і І. Т. Нэрсэсавай — рук. Н. М. Усавай (1994).

Фота А. А. Астаповіча, індывідуальныя і ў групах з роднымі, вучнямі і настаўнікамі, 49 [1902–1930-я].

Фота: М. І. Астаповіч (маці) 11 [1920-я–1950-я], Н. Р. Астаповіч (жонкі) 17 [1913–1930-я]; З. А. Бачаровай (сястры) 19 [1927–1940]; З. А. Бяляўскай (сястры) 6 [1920-я–1930-я]; Арсенія і Валянціна Астаповічаў (сыноў) 2 ([І950], 1958).

Фота пейзажаў: в. Навасёлкі Пухавіцкага раёна, в. Мярова Ленінградскай вобл., г. Мінска, месца вайсковых збораў у лагеры Баравуха, зробленыя А. А. Астаповічам 19 [1920-я–1930-я].

Партрэт [А. А. Астаповіча] нявызначанага мастака з дароўным надпісам А. А. Астаповічу — аловак (1922, г. Харкаў); партрэтныя замалёўкі, шарж нявызначанага мастака з дароўным надпісам А. А. Астаповічу — аловак (1922, г. Харкаў).

Рэпрадукцыі гравюр з партрэта А. С. Пушкіна (мал. і гравюра Райта), храма Саламона 3 [друг. пал. XIX.–пач. XX стст.]; вокладкі час. «Мир искусства» 5 (1902, 1904); рэпрадукцыі з карцін рускіх мастакоў І. Я. Білібіна, М. А. Урубеля, А. А. Рылова 6 (1910,1930).

## АСТОРЫНА А. П.

**Ф. 124. Воп. 2, 143 адз. зах., 534 дак., 1900–1980 гг., асобн. дак. XIX ст.***

***Асторына Аляксандра Паўлаўна*** *(1900–1983) — актрыса; заслужаная артыстка БССР*

Дакументы артыстычнай дзейнасці А. П. Асторынай. Фота ў ролях і сцэнах са спектакляў, сыграных у Разанскім савецкім тэатры: «Интервенция» (1927), «Любовь Яровая» К. А. Транёва (1933), «На всякого мудреца хватает простоты» А. М. Астроўскага (1934); Маскоўскім тэатры драмы і камедыі пад кіраўніцтвам К. Н. Галаванава: «Огненный мост», «Сигнал» (1929); Кастрамскім гарадскім тэатры: «Диктатура» І. Мікіценкі (1931); Варонежскім «Маладым тэатры»: «Гроза» (1937) і «Бедная невеста» (1940) А. М. Астроўскага, «Мадам Сан-Жен» Сарду і Маро (1937) і інш.; Ліпецкім драмтэатры: «Каширская невеста» Авяркіева (1948); Брэсцкім драмтэатры імя ЛКСМБ: «Дворянское гнездо» І. С. Тургенева (1950), «Заговор обреченных» М. Вірты (1949), «Коварство и любовь» Ф. Шылера (1950), «Кредит у Нибелунгов» Ф. Куна (1961), «Соловьи поют на воле» паводле З. Бядулі (1955), «Сердце на ладони» паводле І. П. Шамякіна (1966) і інш., індывідуальныя і ў групах з М. П. Абрамавым, С. Н. Андрэевым, Б. Б. Віншэльбаўмам, Б. Н. Кандалавым, І. Р. Новікавым, Б. Н. Пісарэнка, Б. В. Уксусавым, Ю. І. Уласавым і інш. 120 (1927–1968).

* Анатацыю на воп. 1 (1914–1965) гл. Вып. 1. С. 43–44.



Рукапісы А. П. Асторынай. Артыкулы, нататкі, блакнот з запісамі (1948–1971).

Пісьмо А. П. Асторынай рэктару Куйбышаўскага авіяцыйнага інстытута (1967).

Пісьмы да А. П. Асторынай: братоў Р. і Р. Адэльгеймаў 2 (1927, 1930), Г. М. Кржыжаноўскага (1945), У. І. Куксенкі (1955), А. М. Максімава (1954), С. К. Палуды 8 (1942–1944) і інш.; пісьмы грамадскіх устаноў 15 (1946–1979). Усяго 46 кар.

Буклет і праграмы спектакляў з дароўнымі надпісамі А. П. Асторынай, П. М. Арленева, рэжысёраў Брэсцкага драмтэатра імя ЛКСМБ (1924–1971), паштоўка з дароўным надпісам А. П. Асторынай ад М. А. Эсамбаева [1967].

Дакументы да біяграфіі А. П. Асторынай (1900–1980). Метрычная выпіска аб нараджэнні (1900); радавод роду Тапорніных (бацькоў А. П. Асторынай) (1918); праграмы і афішы спектакляў: Бузулукскага савецкага тэатра (1919), Маскоўскага тэатра драмы і камедыі (1930), Ліпецкага драмтэатра (1935–1947), Брэсцкага драмтэатра імя ЛКСМБ (1958–1963) з удзелам А. П. Асторынай; спісы тэатральных труп, у якіх яна працавала (1918–1958); дак-ты дэпутацкай дзейнасці (1950–1978); дак-ты аб святкаванні юбілеяў, узнагароджаннях (1950–1980).

М. Горкі «На дне» — п’еса, друк. выд. з паметамі (1903), з дароўным надпісам М. Горкага А. А. Смірнову; праграма і афіша юбілейных канцэртаў А. М. Глінкі-Ізмайлава (1927); афіша Барысаглебскага «Нартэатра» (1929); нататка пра гастролі Маскоўскага тэатра драмы і камедыі пад кіраўніцтвам К. Н. Галаванава (1932).

Вершы, артыкулы, нататкі, рэцэнзіі на спектаклі з удзелам А. П. Асторынай — друк. выр., маш. (1919–1975).

Партрэт А. П. Асторынай — малюнак невядомага мастака, папера, аловак, вугаль (1917).

Фота А. П. Асторынай, індывідуальныя і ў групах з акцёрамі Арэнбургскага летняга тэатра (1928), Разанскага савецкага тэатра 2 (1928, 1934), Ліпецкага драмтэатра (1947), Брэсцкага драматычнага тэатра імя ЛКСМБ з Л. І. Андрэевай, Г. П. Маркінай, Б. В. Уксусавым, Л. І. Хрол і інш. пасля рэпетыцыі спектакля «Живой труп» Л. М. Талстога (1954), Г. А. Волкавым, В. Ф. Грачынскім, А. С. Салаўёвай і інш. пасля спектакля «Свадебное путешествие» В. Дыхавічнага 2 (1954), У. І. Уладамірскім пасля спектакля «Ракі» С. У. Міхалкова — з дароўным надпісам У. І. Уладамірскага (1955) і інш.

Фота родных А. П. Асторынай 4 [XIX ст.–1920-я гг.].

Фота Р. Адэльгейма з дароўным надпісам А. П. Асторынай (1926).

Фота: трупы Ліпецкага тэатра лялек (1948), Б. В. Уксусава [1960-я].

П. Мікулін. Пейзаж. Кардон, алей (1923).

## БАБАРЭКА А. А.

**Ф. 407. Воп. 1, 356 адз. зах., 1227 дак., [1915]–1938 гг., дак. членаў сям'і 1939–2001 гг.**

***Бабарэка Адам Антонавіч** (1899–1938) — крытык, празаік*

Рукапісы А. А. Бабарэкі. Раздзелы з мяркуемай кнігі пра Я. Пучшу «Супраць ветру» [1925–1928], нарыс «Вёска…» [1925], артыкулы «Слова і мастацтва», «Паэзія паслярэвалюцыйнага часу і Я. Пушча» [1925–1928], «Творы як мова загадак» [1927] і інш., нататкі «Усяк» [1925], «Думкі аб усім пакрысе» (1926), «На смерць «Узвышша» (1931), «З дыялектыкі чысла», «Што азначаюць пытанні…» [1932] і інш.; рэцэнзіі на кнігу навэл З. Бядулі «Танзілія» (1927), кнігу Я. Пушчы «Дні вясны» [1927], паэму С. У. Фаміна «Балота» [1927] і інш.; зб. «Апавяданні» (выд. Ц. Б. Маладняка) (1925), апавяданні «Дно адной душы» [1923], «Нешта пяе» [1924], [Пра калекцыю і пакуты «казюляк»] [1932], дзённікавыя запісы «Запіскі выгнанца» — аркушы, сшыткі (1932–1934); пераклады рамана Э. М. Рэмарка «На Захадзе нічога новага» — з ням. м. [1932], паэмы І.-В. Гётэ «Рэйнеке Ліс» — з ням. м. — сшыткі [1933–1935], філ. трактата Б. Спінозы «Этыка» [пач. 1930-х] і інш.; бібліяграфія твораў бел. пісьменнікаў, складзеная па беларускай перыёдыцы 1923–1929 гг. — картатэка, запісная кніжка з бібліяграфічнымі звесткамі пра бел. пісьменнікаў [1929] і інш. Усяго каля 229 рук.

Запісныя кніжкі А. А. Бабарэкі, 9 ([1924] –1935).

Пісьмы А. А. Бабарэкі да Г. І. Бабарэкі (жонкі): з Крыма 9 (1925), з мінскай турмы 32 (1930–1931), з г. Слабадской (Кіраўская вобласць) 6 (1931), г. Кірава 65 (1934–1935), з кіраўскай турмы 5 (1938), з перасыльных пунктаў у г. Котласе і г. Усць-Выме 2 (1938), з 41 лагпункта будаўніцтва чыгункі ў Комі АССР 15 (1938); пісьмы А. А. Бабарэкі ў рэд. час. «Узвышша» (1928) і ў «Літаратурную энцыклапедыю» (1930).

Пісьмы да А. А. Бабарэкі: Г. І. Бабарэкі 47 (1925–1939), Э. і А. Бабарэкаў (дочак) 19 (1934–1938), І. А. Бабарэкі (брата) 4 ([1920-я]–1938), пісьменнікаў: З. Бядулі (1927), М. Бязсонава 3 (1933–1935), Г. С. Бярозкі 2 [1929], У. М. Дубоўкі 141 (1928–1935), К. Крапівы 2 ([1927–1929], 1928), М. Лужаніна 2 (1927), Я. Пушчы 26 (1925–1936), С. М. Рукавішнікава аб смерці У. Жылкі 2 (1933, 1934), К. Чорнага 7 [1926–1929] і інш. Усяго 15 кар.



Дакументы да біяграфіі А. А. Бабарэкі (1923–1938, 1958). Лекавая кніжка і кніжка ўкладчыка Дзяржаўнай ашчаднай касы (1923), пасведчанне аб заканчэнні БДУ (1927), сяброўскі білет працаўнікоў асветы БССР і пасведчанне правадзейнага члена Інстытута беларускай культуры (1927), дакументы аб дзейнасці адказным сакратаром час. «Узвышша» (1928), пратаколы вобыскаў падчас арыштаў (1930, 1937), працоўныя спісы мінскага (1929–1930) і кіраўскага (1931–1934) перыядаў і інш.

Рукапісы: А. Астроўскі — рэцэнзія на паэму Я. Коласа «Сымон-музыка» (1925), М. Ламака — водгук на зборнік К. Крапівы «Апавяданні» — аўт. маш. (1926), Л. Цвяткоў — артыкул пра творчасць Я. Чачота — друк. выр. (1927), газ. «Зьвязда» з артыкуламі сяброў БелАППа з крытыкай аб'яднання «Узвышша», артыкуламі пра М. Лужаніна, У. М. Дубоўку і інш. (1929), Дж. Байран — паэма «Шэлёнскі вязень» у перакладзе У. М. Дубоўкі з англ. м. — рук. А. А. Бабарэкі (1931), сшыткі з выпіскамі з прац П. А. Крапоткіна, Вальтэра, Мантэгацца з каментарыем А. А. Бабарэкі [1930-я] і інш.

Фота А. А. Бабарэкі, індывідуальныя, 3 [1915–1925], з сям'ёй 2 (1929, [1934]), у час адпачынку ў Крыме (1925), з А. Вольным, М. Чаротам і інш. сярод украінскіх пісьменнікаў (1925), з У. М. Дубоўкам, А. Дударом, П. А. Трусам і інш. на зборах у 2-ой беларускай дывізіі (1925), з К. Чорным (1925), сябрамі літ. аб'яднання «Узвышша»: П. Ф. Глебкам, У. М. Дубоўкам, Т. Т. Кляшторным, К. Крапівой, М. Лужаніным, К. Чорным і інш. 2 [1927–1928].

Фота мясцін, дзе жыў А. А. Бабарэка, 6 [кан. 1960-х].

Фота: Я. Бялькевіча, індывідуальная і ў групе з [Н. Улашчык], 2 [1920-я]; М. Лужаніна [1920-я], жонак ссыльных Г. В. Багдановіча і М. І. Маркевіча 3 [1920-я–1939] і інш.

Фота з дароўнымі надпісамі А. А. Бабарэку: А. Гурло (1925), У. М. Дубоўкі, індывідуальная і з сям'ёй, 6 (1925–1927), К. Крапівы з жонкай і сынам Барысам 2 (1928), П. А. Труса (1925), К. Чорнага [1920-я].

Дакументы Г. І. Бабарэкі — жонкі А. А. Бабарэкі (1901–1989): пісьмы да яе Г. Аніхоўскай (1931), І. А. Бабарэкі (брата А. А. Бабарэкі) 10 (1931–1946), Г. М. Гарэцкай 2 (1971), У. М. Дубоўкі 35 (1929–1944), Ф. Ф. Купцэвіча 5 (1930–1931), Я. і С. Плашчынскіх 2 (1935, 1960), Л. У. Чарняўскай (Гарэцкай) 3 (1935–1936) і інш.; дакументы да біяграфіі (1930–1959); фота Г. І. Бабарэкі, індывідуальныя, 13 (1943–1977) і ў групах 36 [1917]–1977.

Дакументы Э. А. Бабарэкі — старэйшай дачкі А. А. Бабарэкі (1925–1987): пісьмы да яе А. А. Бабарэкі (сястры) 12 (1965–1965), Г. І. Бабарэкі 9 (1958–1978), А. К. Бабарэкі (1985), Г. М. Гарэцкай 4 (1964–1984), У. М. Дубоўкі 2 (1958; 1964); асабістыя дакументы (1934–1983); фота, індывідуальныя, 14 (1928–[1980-я]), у групе з Г. М. Гарэцкай і Л. У. Чарняўскай 5 [1970-я] і інш.; дакументы, сабраныя Э. А. Бабарэкай: У. М. Дубоўка — творы, друк. выр. (1958–1969), М. І. Гарэцкі — апавяданне з кнігі «Досвіткі» — «Стары прафесар» (1925), «Урыўкі з твораў. Запісы» [1928–1933] (публікацыя і ўступнае слова Г. М. Гарэцкай) — друк. выр. (1959, 1983), артыкулы пра М. І. Гарэцкага — друк. выр. 9 (1979–1983).

Дакументы А. А. Бабарэкі — малодшай дачкі А. А. Бабарэкі (нар. 1928 г.): звесткі пра родных (2001), пісьмы А. А. Бабарэкі: Л. І. Збралевіч (1982), Ю. М. Міхневічу [кан. 1980-х], Г. М. Гарэцкай (1993); асабістыя дакументы (1928–1996); фота А. А. Бабарэкі, індывідуальныя і ў групах з роднымі, У. М. Дубоўкам, сяброўкамі, 23 (1928–1985); фота: У. М. Дубоўкі з дароўнымі надпісамі А. А. Бабарэцы 3 (1961); Г. М. Гарэцкай 10 (1951–1986).

Дакументы А. В. Кім — унучкі А. А. Бабарэкі (1955–1991), В. В. Камарова — праўнука А. А. Бабарэкі (1974–1991).

## БАНДАРЧЫК Т. А.

**Ф. 23. Воп. 2, 100 адз. зах., 444 дак., 1921–1974 гг.***
***Бандарчык Таццяна Андрэеўна** (1902–1974) — актрыса*

Дакументы артыстычнай дзейнасці Т. А. Бандарчык. Ролі, сыграныя ў тэатры драмы і камедыі пры Белдзяржэстрадзе і Бабруйскім вандроўным беларускім драмтэатры (1954–1963), вершы, песні з канцэртнага рэпертуара [1941–1942]; фота ў ролях са спектакляў, сыграных у БДТ-2: «Атэстат сталасці» У. Фадора (1940), «Вайна-вайне» Я. Коласа (1937), «Ірынка» К. Чорнага (1941), «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка (1939), «У пушчах Палесся» паводле Я. Коласа (1937) і інш.; тэатры драмы і камедыі пры Белдзяржэстрадзе «Дама-невідзімка» Кальдэрона [1950-я], індывідуальныя і ў групах з П. С. Малчанавым, С. У. Скальскім і інш., 21 (1926–[1960-я]).

Рукапісы Т. А. Бандарчык. Нататка, успаміны, дзённікавыя запісы ([1944]–1974).

* Анатацыю на воп. 1 (1921–1962) гл. Вып. 1. С. 50–51.



Пісьмы Т. А. Бандарчык: Б. І. Бур'яну 5 [1970-я], Н. Б. Ватацы 2 [1970-я], С. У. Гіацынтавай (1973), К. Б. Зорынай [пач. 1970-х], І. У. Мейерхольд, 6 [1970-я], С. М. Станюце (1971) і інш. Усяго 29 адр.

Пісьмы да Т. А. Бандарчык: С. А. Бандарчыка (брата) 21 (1941–1944), Я. Р. Буракова 4 (1967–1971), М. С. Бялінскай 2 (1944), С. У. Гіацынтавай 2 (1958, 1973), К. В. Зорынай 2 (1972), Р. М. Кашэлькікавай (1966), Л. І. Мазалеўскай 14 (1948–1964), П. С. Малчанава 12 ([1942]–1972), І. У. Мейерхольд 4 (1972–1973), С. А. Пятровіча 2 (1972, 1973), А. П. Радзялоўскай (1967–1971), А. К. Саннікава 2 (1971), С. М. Станюты 17 (1962–1974), С. П. Шушкевіча 2 (1968) і інш.; рэд. газ.: «Віцебскі рабочы» (1964), «ЛіМ», 14 (1967–1972), музеяў і інш. устаноў (1964–1974). Усяго 65 кар.

Праграма спектакля «Последняя жертва» А. М. Астроўскага, паст. ў Ленінградскім тэатры драмы імя А. С. Пушкіна з дароўным надпісам І. У. Мейерхольд Т. А. Бандарчык (1973).

Дакументы да біяграфіі Т. А. Бандарчык (1921–1970). Дакументы пра дзейнасць драматычнай студыі ў Маскве з упамінаннем Т. А. Бандарчык: загады, пастановы, справаздачы і інш. (1921–1926) — рук. коп. [1970], даведкі пра вучобу і працу (1932–1958), спісы гастрольных спектакляў Бабаруйскага вандроўнага беларускага драмтэатра — кіраўнік Т. А. Бандарчык (1957–1970) і інш.

Сшыткі з выпіскамі з лекцый па акцёрскаму майстэрству Б. С. Смышляева, Б. М. Афоніна і інш. 5 (1961–1971), артыкулы пра тэатральнае мастацтва (1966–1971), рэцэнзіі на спектаклі: БДТ-2 (1928), тэатра драмы і камедыі Белдзяржэстрады (1951), тэатра імя Я. Коласа (1967), тэатра імя Я. Купалы (1954, 1968), праграмы спектакляў Дзяржаўнага драмтэатра імя Массавета (1944), МХАТа (1944), Харкаўскага дзяржаўнага рускага тэатра імя А. С. Пушкіна (1968), сшыткі з вершамі, песнямі, прымаўкамі і інш. 4 (1941–[1971]), сшыткі з беларускімі народнымі песнямі 2 (1945); пісьмо В. А. Громава П. С. Малчанаву пра дачку В. С. Смышляева (1972) і інш. (1894–1974).

Фота Т. А. Бандарчык, індывідуальныя і ў групах з А. І. Лагоўскай, А. Р. Радзялоўскай, С. М. Станютай, Ц. М. Сяргейчыкам, 9 (1924–[1960-я]).

Фота: С. А. Бандарчыка (1942), В. А. Дарвішава — коп. [1936], В. С. Смышляева — коп. 2 [1920-я–1930-я].

Малюнкі: эскіз Л. А. Нікіціна і М. А. Керзіна касцюма Нанэтты са спектакля «Цырульнік з Берыягу» М. Мэл для БДТ-2 (1927); эскіз А. А. Арапава парыка Таццяны (для Т. А. Бандарчык) са спектакля «Мяшчане» М. Горкага для БДТ-2 з прыкладзеным каментарыем (1938).

